
THE WALKING DEAD
27
$2.99
$3.50 CAN
Image
ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ #27 (2003)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN

# The Best Defense

## Лепшая абарона

ЧАСТКА 3(6)




пераклад
і афармленне:
**comicsby**



ВЫ МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ ЯШЧЭ АДЗІН ЛАГЕР, ЯКІ БЛІЖЭЙ ДА ГЭТАГА МЕСЦА, ЧЫМ МЫ?
ТАДЫ ЧАМУ МЫ НЕ БАЧЫЛІ ІХ РАНЕЙ?
ЯК ЛІЧЫШ, КОЛЬКІ ІХ ТУТ БЫЛО? Я БАЧУ НЕ МЕНШ ЗА ТРЫ... НЕ ЧАТЫРЫ ВІДЫ АБУТКАЎ.
ХАЦЯ З ТАКІМ БРУДАМ... Я НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ ДАКЛАДНА. МАБЫЦЬ ІХ БЫЎ І ТУЗІН. ІХ ПАВІННА БЫЛО БЫЦЬ НЕКАЛЬКІ. КАЛІ ІМ ПРЫЙШЛОСЯ НЕСЦІ ПАРАНЕНЫХ З ШРУБАЛЁТА.
РЫК? МІЧОНІ? ЯК ЛІЧЫЦЕ, РАБЯТЫ?
РАБЯТЫ?
РАБЯТЫ?!
РАБЯТЫ... ПАЧАКАЙЦЕ!


ОГО... ТЫ СТРАЦІЛА МАГЧЫМАСЦЬ РАЗМАЎЛЯЦЬ
ГЭТА ПРОСТА ПРАПАНОВА, ЛОРЫ. Я ЛІЧУ, ШТО ХАЧУ БЫЦЬ З ТАБОЙ... ТАБОЙ І РЫКАМ. ГЭТА БУДЗЕ, БЫЦЦАМ МЫ АЖАНІЛІСЯ... ТОЛЬКІ БЕЗ ГЭТЫХ ЦЫРЫМОНІЙ.
ГЭТА САПРАЎДЫ НЕКАЛЬКІ ДЗІЎНА.
ТЫ МОЖАШ СКАЗАЦЬ «ТАК». ЦІ ТОЕ, ШТО ТЫ ДУМАЕШ ПРА ГЭТА.
ТЫ ЖА КЛАПАЦІШСЯ ЗА МНЕ? МАБЫЦЬ Я НЕ ПРАВІЛЬНА ЗРАЗУМЕЛА?
КЭРАЛ... Я ПРОСТА НЕ ВЕДАЮ, ШТО СКАЗАЦЬ.
КЭРАЛ, МЫ СЯБРЫ І МЫ ПРАЙШЛІ ПРАЗ ШМАТ ЧАГО РАЗАМ, ГЭТА ДАКЛАДНА. ЗА АПОШНІЯ СЕМ МЕСЯЦАЎ НЕ БЫЛО І ДНЯ, КАБ МЫ НЕ БАЧЫЛІ АДНА АДНУ, ТАМУ МЫ БЫЛІ РАЗАМ.
АЛЕ Я ПАЧЫНАЮ РАЗУМЕЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА - ВЫЖЫВАННЕ, МЫ ЗАЎСЁДЫ АГЛЯДАЕМСЯ. МНЕ СТАЛА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО МЫ ВЕЛЬМІ МАЛА ВЕДАЕМ АДНА АДНУ.
У НАС НЕ БЫЛО ЧАСУ НА ТОЕ, КАБ ПАЗНАЦЬ АДНА АДНУ...
ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ?
Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ. ТЫ ВЕДАЕШ, КОЛЬКІ Ў МЯНЕ БРАТОЎ? ЦІ... ЦІ ЯКУЮ ШКОЛУ Я НАВЕДВАЛА? ТЫ... Я НЕ ВЕДАЮ... ТЫ ВЕДАЕШ, КІМ БЫЛІ МАЕ БАЦЬКІ ІДЗЕ Я ВЫРАСЛА?
Я НАВАТ НЕ ВЕДАЮ, ЯКАЯ ТВАЯ ЛЮБІМАЯ ЕЖА.


НЯЎЖО ВАЖНА, ЯКАЯ МАЯ ЛЮБІМАЯ ЕЖА, КАЛІ Ў МЯНЕ НІКОЛІ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ МАГЧЫМАСЦІ ПАЧАСТАВАЦЦА ЁЮ ЗНОЎ?
НЕ ТОЛЬКІ ГЭТА. ПАСЛУХАЙ МЯНЕ. АДЗІНАЕ, ШТО НАС ЗЛУЧАЕ, ГЭТА АГУЛЬНАЯ ТРАЎМА. МЫ БАЧЫЛІ, ЯК СВЕТ ВАКОЛ НАС РУШЫЦЦА... РАЗАМ.
КАЛІ МЫ РАЗМАЎЛЯЕМ... МЫ НЕ РАЗМАЎЛЯЕМ ПРА НАС. МЫ ВЯДЗЕМ РАЗМОВУ ПРА НАША СТАНОВІШЧА. ТОЕ, ШТО МЫ ПАДАБАЕМСЯ АДНА АДНОЙ, І ТОЕ, ШТО МЫ ЗЛУЧАНЫ МІЖ САБОЙ, НЕ АЗНАЧАЕ, ШТО МЫ КАХАЕМ АДНА АДНУ... ПА МЕНШАЙ МЕРЫ НЕ ТАК, ЯК ТЫ ГЭТА САБЕ ЎЯЎЛЯЕШ.
БОЖА ЛІТАСЦІВЫ, КЭРАЛ... Я З МАЛЕНЬКАГА ГАРАДКА Ў КЕНТУКІ. НЯЎЖО ТЫ САПРАЎДЫ ЛІЧЫЛА, ШТО Я ПАЙДУ НА ГЭТА?
ЯК ТЫ... ЧАМУ ТЫ ТАК ГАВОРЫШ, ЛОРЫ?
А ЯК ТЫ ДУМАЛА Я АДРЭАГУЮ НА ГЭТУ ШАЛЁНУЮ ПРАПАНОВУ?
САПРАЎДЫ?
І ЯК БЫ ГЭТА АДБЫВАЛАСЯ? ШТО ПАДУМАЛІ Б НАШЫЯ ДЗЕЦІ? ТЫ МОЖАШ САБЕ ЎЯВІЦЬ, ЯКІ СЛЕД ПАКІНЕ ЎСЁ ГЭТА НА ІХ ЖЫЦЦЯХ?
БОЖА, КЭРАЛ! ТЫ ШТО, НАОГУЛ НЕ ДУМАЕШ ПРА САФІЮ?
ЯК ТЫ СМЕЕШ?!
КЭРАЛ... ПАЧАКАЙ!


МЫ НЕ ПЕРАШКОДЗІЛІ?
ПРАБАЧ, УЖО ПОЗНА, НАМ ПРЫЙШЛОСЯ ПАКІНУЦЬ БЭНА І БІЛЛІ ЛЯ ЛОЖКА, КАБ ПРЫВЕСЦІ ДЗЯЦЕЙ.
ПОЙДЗЕМ, САФІЯ, ЧАС КЛАСЦІСЯ СПАЦЬ.
ДАБРАНАЧ, САФІЯ.
ШТО ГЭТА БЫЛО? ЯНА Ў ПАРАДКУ?
СУМНЯВАЮСЯ.
ЦЯПЕР УЖО НЕ.
ДАВАЙ, КАРЛ... СКОЧ У ЛОЖАК.
УЖО ПОЗНА. ЯНЫ НЕ ВЯРНУЛІСЯ, ТАК?
НЕ.
ЯНЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТАМ.


ВЕЧАРЭЕ.
АГА.
ДЫК ШТО МЫ ЗБІРАЕМСЯ РАБІЦЬ ЦЯПЕР? У СЭНСЕ, НЕ ПАДОБНА, ШТО ЯНЫ ХУТКА ВЕРНУЦЦА. РАЗУМЕЕШ?
НАМ ТРЭБА ЗАСТАВАЦЦА ТУТ ДА ІХ ВЯРТАННЯ. ЯНЫ ПРЫЕДУЦЬ НА МАШЫНЕ, НАМ ТРЭБА БЫЦЬ ТУТ, КАБ АДЧЫНІЦЬ ГЭТЫЯ ВАРОТЫ ДА ТАГО, ЯК УСЕ ГЭТЫЯ ТРУПЫ АБЫЙДУЦЬ ІХ З УСІХ БАКОЎ.
НА САМ РЭЧ, НАМ ТРЭБА АДЫСЦІ НАЗАД ЦІ ЛЕПШ... АДЫСЦІ Ў БОК АД ВАРОТ ФУТАЎ НА ДВАЦЦАЦЬ, КАБ АЦЦЯГНУЦЬ УВАГУ ЗОМБІ, ТАДЫ ІХ НЕ БУДЗЕ ТАК ШМАТ КАЛЯ ВАРОТ.
ДОБРА, Я ПЕРАСУНУ КРЭСЛЫ.


ДЗЯКУЙ, ШТО КІНУЛІ МЯНЕ ТАМ. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
ПРАБАЧ, ГЛЕН. Я ХАЦЕЎ ПАГЛЯДЗЕЦЬ, КУДЫ ЯНЫ ПАЙШЛІ. ДУМКА ПРА МАГЧЫМУЮ СУСТРЭЧУ З ІНЫМІ ВЫЖЫЛЫМІ ВЕЛЬМІ МЯНЕ ХВАЛЮЕ.
МНЕ НЕ ТРЭБА НАГАДВАЦЬ ВАМ, РАБЯТЫ, ШТО Ў НАС ЗАСТАЛОСЯ МЕНШ ДЗЕСЯЦІ ХВІЛІН, ДА ТАГО, ЯК ТУТ СТАНЕ ЗУСІМ ЦЁМНА. Я НА САМОЙ СПРАВЕ НЕ СУПРАЦЬ ВЯРТАННЯ ДАДОМУ.
АКРАМЯ ТАГО, ЯК У ЦЕМРЫ МЫ ЗМОЖАМ ВЕДАЦЬ, КУДЫ ЯНЫ ПАЙШЛІ? ЗДАЕЦЦА, Я ПАКІНУЎ СВАЙГО САБАКУ-ШНЫПАРА Ў ТУРМЕ.
НУ, ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, МЫ ВЕДАЕМ НАКІРУНАК, У ЯКІМ ЯНЫ ЎЙШЛІ.
ЦУДОЎНА... І ШТО ВЫ РАБЯТЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ РАБІЦЬ З ГЭТАЙ ІНФАРМАЦЫЯЙ?
МЫ ПАВІНЫ АБМЕРКАВАЦЬ ГЭТА.
МНЕ ВЕЛЬМІ НЕ ПАДАБАЕЦЦА ДУМКА, ШТО МЫ НЕ ВЕРНЕМСЯ ГЭТАЙ НОЧЧУ Ў ТУРМУ, І ПРЫМУСІМ ТАМ УСІХ ХВАЛЯВАЦЦА... АЛЕ ДУМАЮ, ШТО НАМ ТРЭБА РАЗАБРАЦЦА З ГЭТЫМ.
КАЛІ ЯНЫ БЫЛІ БЛІЖЭЙ, ЧЫМ МЫ... ТАДЫ ІСЦІ ДА ІХ ЗНАЧНА БЛІЖЭЙ, ЧЫМ ВЯРТАЦЦА Ў ТУРМУ.
ТАК САМА... У ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ ЁСЦЬ МАШЫНЫ І ПАЛІВА. І ЯНЫ ЗМАГЛІ Б АДВЕЗЦІ НАС НОЧЧУ НАЗАД У ТУРМУ. ЧОРТ ГЭТА МОЖА БЫЦЬ БЫЎ ІХ ШРУБАЛЁТ.
ЯК ЛІЧЫЦЕ, РАБЯТЫ?


Я З ТАБОЙ. ДАВАЙ ЗРОБІМ ГЭТА.
ОХ, САПРАЎДЫ... ЯК Я ВЯРНУСЯ Ў ТУРМУ АДЗІН? ХАДЗЕМЦЕ.
ХАЦЯ, МАГЧЫМА, ВЫ МАЕЦЕ РАЦЫЮ.
ДОБРА, ДАВАЙЦЕ ХУТЧЭЙ. Я НЕ ХОЧУ БЛУКАЦЬ У ЦЕМРЫ БОЛЬШ, ЧЫМ ТРЭБА.
ГЭЙ, ГЛЯДЗІЦЕ НА ЗНАК.
Woodbury 1
Fayetteville 31
Atl 53
ХМ. ГАТОВЫ СПРАЧАЦЦА, ШТО ЯНЫ Ў ВУДБЕРЫ... МАГЧЫМА ХАВАЮЦЦА Ў КРАМЕ ЦІ ЯШЧЭ ДЗЕСЬЦІ.
ВІДАЦЬ, ХУТКА МЫ ПРА ГЭТА ДАВЕДАЕМСЯ.


КАЛІ ТВОЙ ТАТА ВЕРНЕЦЦА, МЫ ЗБІРАЕМСЯ РАССЯЛІЦЦА ПА КАМЕРАХ НАВОКАЛ. У ЦЯБЕ НАВАТ БУДЗЕ СВОЙ ЎЛАСНЫ ПАКОЙ. ФАЙНА, САПРАЎДЫ?
ТАК.
ДАБРАНАЧ, СЫНОК.
МАМ... ТЫ НЕ ПАВІННА ТАК ХВАЛЯВАЦЦА ЗА ТАТУ. ТЫ ВЕДАЕШ ГЭТА, ТАК?
ПРА ШТО ТЫ, КАРЛ?
КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ТАТА ЎХОДЗІЦЬ, ТЫ СУМУЕШ І ХВАЛЮЕШСЯ, АЛЕ КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ЁН УХОДЗІЦЬ КУДЫСЬЦІ, ЁН ЗАЎСЁДЫ ВЯРТАЕЦЦА ДА НАС.
КАЛІ ЁН ЗАЎСЁДЫ ВЯРТАЕЦЦА ЦЭЛЫМ І НЕПАШКОДЖАНЫМ, ТАДЫ НЯМА ПРЫЧЫНЫ ХВАЛЯВАЦЦА.
Я ВЕДАЮ, СЫНОК. Я НЕ ХВАЛЮЮСЯ.


ДЫК ШТО... МЫ ЗАСТАНЕМСЯ ТУТ НА ЎСЮ НОЧ?
Я НЕ ХАЧУ, КАМ ЯНЫ ПАТРАПІЛІ Ў ПАСТКУ, КАЛІ ЯНЫ ВЕРНУЦЦА НОЧЧУ. ТЫ СА МНОЙ? ГАТОВЫ НЕ СПАЦЬ УСЮ НОЧ?
ДУМАЕШ, Я БЫЎ СЯРОД ГЭТЫХ ЗЛЫДНЯЎ ТАК ДОЎГА, ШТО ЗМАГУ ЗАСНУЦЬ У ДЗЕСЯЦІ КРОКАХ АД ІХ?
А ВОСЬ І ХЕРА ІМ ЛЫСАГА.
Я ТАКСАМА НЕ ПАСНУ. АДЗІН ТОЛЬКІ ПАХ НЕ ДАСЦЬ МНЕ ГЭТАГА ЗРАБІЦЬ.
ПЛЮС, Я НЕ ХАЦЕЎ БЫ СПАЦЬ, КАЛІ ЯНЫ ПРЫЕДУЦЬ.
НЕПАКОІШСЯ ЗА ІХ? ЗА МІЧОНІ? І АСТАТНІХ?
ЦІ ХАЧУ Я, КАБ ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ? ТАК. БЕЗ СУМНЕВУ. ЦІ НЕПАКОЮСЬ Я? НЕ. НІ КРОПЛІ.
РЫК І ГЛЕН ЗМОГУЦЬ ПАКЛАПАЦІЦЦА ЗА СЯБЕ. АСАБЛІВА РЫК... ЁН НЕ ДАЗВОЛІЦЬ, КАБ З ГЛЕНАМ ШТОСЬЦІ ЗДАРЫЛАСЯ. МЫ НЕ Ў ДОБРЫХ АДНОСІНАХ, АЛЕ Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПАВАЖАЮ ГЭТАГА МУЖЫКА.
МІЧОНІ Ў ПАРАДКУ. ЯНА ЗАНАДТА ДОЎГА БЫЛА ЗВОНКУ АДНА... НЕ ДУМАЮ, ШТО Ў ЯЕ ЎЗНІКНУЦЬ НЕЙКІЯ ПРАБЛЕМЫ.
АДЗІНАЕ, ШТО МЯНЕ ТУРБУЕ, ГЭТА ТОЕ, ЧАМУ ЯНЫ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЦА... ШТО МАГЛО БЫЦЬ У ГЭТЫМ ШРУБАЛЁЦЕ, ШТО ЗАТРЫМАЛА ІХ.


А ХТО ЯГО ВЕДАЕ.
ТЫ ТАКСАМА ЗБІРАЕШСЯ ПЕРАДБРАЦЦА Ў БЛОК «А», ТАК?
ТАК, А ТЫ?
НЕ ЎПЭЎНЕНЫ. ПАДУМАЮ ПРА ГЭТА. КАЛІ ПА ПРАЎДЗЕ, МНЕ ПАДАБАЕЦЦА, ШТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ВЫБАР.
Я БЫЎ ТУТ ЗНЯВОЛЕННЫМ... ДЗІЎНА, ГЭТА МЕСЦА ЗДАЕЦЦА ЗУСІМ ІНШЫМ, КАЛІ ПРОСТА СПІШ У КАМЕРЫ З АДЧЫНЕНЫМІ ДЗВЯРМІ.
ГЭТА НОВЫ СВЕТ, ЧУВАК. УЯВІ, ЯК ГЭТА ЎСЁ ДЗІЎНА ДЛЯ НАС, ЖЫЦЬ У ТУРМЕ... І ЗВАЦЬ ЯЕ ДОМАМ.
МЫ ЗАСЫПАЕМ У ПАКОЯХ З КРАТАМІ ЗАМЕСТ АДНОЙ СЦЯНЫ. МЫ КОЖНЫ ДЗЕНЬ БАЧЫМ ПЛАТЫ І РАШОТКІ І МЫ ЗНАЧНА ШЧАСЛІВЕЙ, ЧЫМ КАЛІ-НЕБДЗЬ ЯШЧЭ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК УСЁ ГЭТАЕ ЛАЙНО ПАЧАЛОСЯ.
Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ ТАМ. НІКОЛІ НЕ БЫЎ У НЕБЯСПЕЦЫ, КАЛІ ЦЯБЕ ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ ГЭТЫЯ ПАЧВАРЫ. Я БЫЎ ТУТ ДА ТАГО, ЯК ЯНЫ ПАЧАЛІ АЖЫВАЦЬ І ЗАБІВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ... І ПАСЛЯ ГЭТАГА Я ТАКСАМА БЫЎ ТУТ.
ТАМУ ТАК... ГЭТА НОВЫ СВЕТ, І ДА ПАМОЖА НАМ БОГ...
ГЭТЫ СВЕТ ПАДАБАЕЦЦА МНЕ БОЛЬШ.


ТАТА?
ТАТА? ТЫ СПІШ?
УЖО НЕ. ШТО ТАКОЕ, МЭГГІ?
ГЛЕН ЯШЧЭ НЕ ВЯРНУЎСЯ. НЕ ДУМАЮ, ШТО ЁН ВЕРНЕЦЦА ГЭТАЙ НОЧЧУ. НАЎРАДЦІ Ў МЯНЕ АТРЫМАЕЦЦА ЗАСНУЦЬ, АЛЕ Я НЕНАВІЖУ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ГЭТЫМ ПАКОІ АДНА.
МАБЫЦЬ Я МАГУ...?
ХАДЗЕМ. Я ПАСУНУСЯ ДА СЦЕНЦЫ.
ДЗЯКУЙ, ТАТУЛЯ.
ЦІШЭЙ. ТЫ РАЗБУДЗЕШ СВАЙГО БРАТА.


ПАКУЛЬ УСЁ ДОБРА. МАБЫЦЬ НА ГЭТАЙ ТЭРЫТОРЫІ ПРОСТА НЯМА ХАДЗЯЧЫХ.
ГЭТА НАШ АДЗІНЫ ПОСПЕХ ЗА ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ.
ЯНЫ ТАМ.
ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ? Я НІКОГА НЕ ЧУЮ.
ІХ ЦЯЖКА ПАЧУЦЬ. ЯНЫ ТАМ... НЕ МЕНШ ЗА ДЗЯСЯТАК І З КОЖНАЙ ХВІЛІНАЙ ІХ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ.
ТЫ ЎПЭЎ-НЕНА?
ПРОСТА ТАК ЯНО ПРАЦУЕ НА АДКРЫТАЙ ПРАСТОРЫ. МЫ ПРАХОДЗІМ МІМА, ПРО-СТА ІДЗЕМ НАПЕРАД, НЕ ЗАЎВАЖАЮЧЫ ІХ... АЛЕ ЯНЫ ЗАЎВАЖАЮЦЬ... І ІДУЦЬ ЗА НАМІ.
ЯНЫ НЕ МОГУЦЬ ХАДЗІЦЬ ТАК ХУТКА, ЯК МЫ. ЧЫМ ДОЛЬШ МЫ ІДЗЕМ, ТЫМ БОЛЬШ ЯНЫ АДСТА-ЮЦЬ... АЛЕ ЎСЁ ЯШЧЭ ІДУЦЬ ЗА НАМІ.
КАЛІ МЫ ДОЙДЗЕМ ТУДЫ, КУДЫ МЫ ІДЗЕМ, КАЛІ МЫ СПЫНЕМСЯ, ГЭТА БУДЗЕ ТОЛЬКІ ПРА-БЛЕМА ЧАСУ, КАЛІ ЯНЫ ДАБЯРУЦЦА ДА НАС. І ЧЫМ ДАЛЕЙ МЫ ІДЗЕМ, ТЫМ БОЛЬШ ІХ БУДЗЕ.
Я ВЕДАЎ, ШТО ГЭТА ДРЭННАЯ ІДЭЯ.
АСЦЯ-РОЖНА.


ГЭЙ.
ДЭЙЛ? ТЫ НЕ СПІШ?
АНДРЭА, МІЛАЯ. З УСІХ ВЫЖЫЛЫХ У ГЭТЫМ СВЕЦЕ ТРЫ ЧАЛАВЕКІ, ЯКІХ Я ВЕДАЮ, ЗАРАЗ ТАМ, ПАСЯРОД НАЧЫ.
ЯНЫ ЗВОНКУ Ў ЦЕМРЫ РАЗАМ З УСІМІ ГЭТЫМІ ІСТОТАМІ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА АДВАРОТНЫМ БАКУ НАШАГА ПЛОТА.
КАЛІ ЯНЫ ЯШЧЭ НЕ МЁРТВЫЯ, ТАДЫ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ХУТКА БУДУЦЬ, І НЯМА НІЧОГА, ШТО Я МОГ БЫ З ГЭТЫМ ЗРАБІЦЬ.
ТАМУ ТАК... Я НЕ СПЛЮ, МІЛАЯ... І ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ НЕ ЗАСНУ ДА ЎСХОДА СОНЦА.
ДЫК ТЫ ХВАЛЮЕШСЯ ЗА ІХ?
ТЫ НЕВЕРАГОДНА КЕМЛІВАЯ.
ТАК, Я ВЕЛЬМІ ХВАЛЮЮСЯ ЗА ІХ.
Я ТАКСАМА. СУМНЯВАЮСЯ, ШТО БУДУ ШМАТ СПАЦЬ ГЭТАЙ НОЧЧУ.


ГЭТА ДРЭННА. МЫ ЦЯПЕР БАЦЬКІ. І ЗАЎТРА МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ У ФОРМЕ ДЛЯ НАШЫХ МАЛЕНЬКІХ.
АДНАМУ З НАС ТРЭБА ТРОХІ ПАСПАЦЬ.
ЧОРТ. БЛІЗНЯТЫ. Я АМАЛЬ ЗАБЫЛА.
БОЖА.
ТАК. МЫ БАЦЬКІ ЦЯПЕР. МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ АДКАЗНЕЙ.
ЛІЧЫШ, ЯНЫ Ў ПАРАДКУ? СПЯЦЬ?
ГЭТЫЯ ХЛОПЧЫКІ МАЦНЕЙ, ЧЫМ МЫ ДУМАЕМ. ДЗЕЦІ, ЦІ ВЕДАЕШ, МОГУЦЬ ПЕРАНЕСЦІ ЗНАЧНА БОЛЬШ, ЧЫМ МЫ МОЖАМ САБЕ ЎЯВІЦЬ. БОЛЬШАСЦЬ З ІХ.
ЯНЫ ПАПРАСІЛІСЯ СПАЦЬ У СВАЁЙ УЛАСНАЙ КАМЕРЫ, І МЫ ДАЗВОЛІЛІ ІМ. ЯНЫ ПРАЗ ШМАТ ШТО ПРАЙШЛІ. НЕ ТРЭБА ІМ КАЗАЦЬ, ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ ЯНЫ НЕ ХОЧУЦЬ ГЭТАГА. ВЕЛЬМІ ХУТКА Ў НАС БУДЗЕ ЧАС, КАБ ДАВЕДАЦЦА АБ ІХ.
ЯНЫ ЗА СУСЕДНІМІ ДЗВЯРАМІ... І ЯНЫ ДОБРА ЗАЧЫНЕНЫ. РАНІЦАЙ З ІМІ ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.
ПАДОБНА, ШТО ТЫ ХВАЛЮЕШСЯ ЗА НАС АБОДВУХ. ТАДЫ МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫБРАСІЦЬ УСЁ ГЭТА З СВАЁЙ ГАЛАВЫ І ТРОХІ ПАСПАЦЬ.
ТАК ЦІ ІНАЧ.
КАМУСЬЦІ ПРЫЙДЗЕЦЦА СЕЯЦЬ ЗБОЖЖА ЗАЎТРА РАНІЦАЙ.
Я КАХАЮ ТАБЕ, ДЭЙЛ. ДАБРАНАЧ.
ТАБЕ ТАКСАМА, КІСА.


WELCOME TO WOODBURY
POPULATON 1,102
ГЭТА ТУТ.
НЕ МОЖА БЫЦЬ... ГЭТА МЕСЦА ВЫГЛЯДАЕ ЗАГІНУЛЫМ.
ЯНО МЁРТВАЕ... ТУТ НЯМА НІЧОГА... НІЧОГА ЖЫВОГА.
БОЖА, МАБЫЦЬ ТЫ І ПРАВА.
M
WAL★MART
МЫ НЕ МОЖАМ ПАВЯРНУЦЬ ЗАРАЗ. У НАС ВЕЛЬМІ ШМАТ ХАДЗЯЧЫХ ЗА СПІНОЙ. НЕКАТОРЫЯ НА АДЛЕГЛАСЦІ ДВАЦЦАЦЬ КРОКАЎ ЗЗАДУ.
МЫ СХОПІМ АДНАГО... МАГЧЫМА, МЫ ПАСПЕЕМ НАЦЕРЦІСЯ, КАБ ЗАМАСКІРАВАЦЬ НАШ ПАХ. ГЭТА СПРАЦАВАЛА Ў АТЛАНЦЕ. МЫ МАГЛІ Б ПАСПРАБАВАЦЬ ГЭТА І ТУТ.
КАЛІ МЫ ЗРОБІМ ГЭТА, МЫ, МАГЧЫМА, ЗМОЖАМ ВЯРНУЦЦА Ў ТУРМУ.
MART
ПРАКЛЯЦЦЕ... ВІДАЦЬ, ГЭТА НАШ АДЗІНЫ ШАНС. МІЧОНІ. МОЖАШ СКАЗАЦЬ, ЯК ДАЛЁКА БЛІЖЭЙШЫ З ІХ?
СМОЖАМ МЫ СХАПІЦЬ АДНАГО, ПАКУЛЬ НА НАС НЕ НАКІНУЦЦА АСТАТНІЯ?


BLAM!
КЛАДЗІЦЕСЯ НА ЗЯМЛЮ... ХУТКА!!!
МЫ НЕ ХАЦІМ ВАС ВЫПАДКОВА ПАДСТРАЛІЦЬ!
BLAM! BLAM! BLAM! BLAM! BLAM! BLAM! BLAM! BLAM!
ЦЯПЕР ІДЗІЦЕ НА СВЯТЛО... ХУТКА... ПАКУЛЬ АСТАТНІЯ КУСАКІ НЕ ДАБРАЛІСЯ ДА ВАС!
ХТО ВЫ ТАКІЯ, ЧОРТ БЯРЫ? ШТО ВЫ РОБІЦЕ ТУТ?
МЫ ЖЫВЫЯ, МАЦЬ ТВАЮ. А ЦЯПЕР ЗАХОДЗЬЦЕ ЎНУТР, ПАКУЛЬ МЫ ТУТ АДНІ.


ЗАБЯРЫ ІХ ЗБРОЮ, АБВЕС... ГАРМАТЫ, НАЖЫ, УСЁ, ШТО ЁСЦЬ. ПРАВЕР, КАБ ЯНЫ БЫЛІ ЧЫСТЫЯ, ПЕРАД ТЫМ, ЯК ПАТРАПЯЦЬ УНУТР.
ТАК, БОС.
АДДАЙ ІМ, МІЧОНІ... НЕ ПАДОБНА, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ ВЫБАР.
НАВОШТА ВЫ АДБІРАЕЦЕ НАШУ ЗБРОЮ? МЫ ПРОСТА ХАЦЕЛІ ДАВЕДАЦЦА, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ЛЮДЗЬМІ З ШРУБАЛЁТА. ВЫ ВЫРАТАВАЛІ ІХ, ТАК?
НЕ ХАЦІМ РАБІЦЬ ВАМ БАЛЮЧА. ЗБРОЮ ЗАБІРАЕМ ДЛЯ СВАЁЙ БЯСПЕКІ. У НАС ТУТ ДАСТАТКОВА ПСІХАЎ.
Я МАРЦІНЕЗ. САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ У ВУДБЕРЫ. АПОШНІ МАЛЕНЬКІ ГАРАДОК НА ЗЯМЛЕ.
Я АДВЯДУ ІХ ДА СТАРЭЙШАГА. Я ЧУЎ, КУСАКІ ПАДЫШЛІ БЛІЖЭЙ, ЧЫМ НА ДВАЦЦАЦЬ КРОКАЎ ДА СЦЯНЫ, РАЗБЯРЫЦЕСЯ З ІМІ.
ХАДЗЕМЦЕ ЗА МНОЙ.


Я САМ ЗАБЯРУ ІХ АДСЮЛЬ, МАЦІНЕЗ. Я ХАЦЕЎ БЫ САМ СУПРАВАДЗІЦЬ НАШЫХ ГАСЦЁЎ.
ТЫ ПАТРЭБНЫ МНЕ НА СЦЯНЕ. ЗНІШЧЫ ЎСІХ КУСАК, ГЭТА АБАВЯЗКОВА ВЫЛЕЧЫЦЬ ІХ.
ТАК, СЭР ГУБЕРНАТАР. Я НЕ ДУМАШ, ШТО ВЫ САМІ ВЫЙДЗЕЦЕ, КАЛІ МЫ ПАВЕДАМІЛІ ВАМ ПРА ІХ ПРЫБЫЦЦЁ.
ЯНЫ ЦАЛКАМ ВАШЫЯ.
ІДЗІЦЕ ЗА МНОЙ, РАБЯТЫ. Я ЗРАБЛЮ ДЛЯ ВАС НЕВЯЛІКУЮ ЭКСКУРСІЮ.
ГУБЕРНАТАР?
Я ЎЗЯЎ ГЭТЫ ТЫТУЛ ДЗЕЛЯ ЖАРТУ. ГЭТА БОЛЬШ ЖАРТ, ЧЫМ ШТОСЬЦІ ЯШЧЭ. Я АМАЛЬ СТАЎ ПРЭЗІДЭНТАМ, АЛЕ ПАДУМАЎ, ШТО ГЭТА НЕЯК ТУПА ГУЧЫЦЬ.
ЗАЎСЁДЫ ХАЦЕЎ БЫЦЬ ГУБЕРНАТАРАМ.
УБАЧЫЎ МАГЧЫМАСЦЬ, І ЎЗЯЎ ЯГО.
Я ХАЧУ, КАБ ТЫ РАСКАЗАЎ ПРА СЯБЕ. РАСКАЗВАЙ СВАЮ ГІСТОРЫЮ, ЧУЖЫНЕЦ.



НЯМА НІЯКАЙ ГІСТОРЫІ. МЫ ВАНДРАВАЛІ. УБАЧЫЛІ ШРУБАЛЁТ І БЫЛІ ДАСТАТКОВА БЛІЗКА, КАБ ПАГЛЯДЗЕЦЬ... АЛЕ НЕ ТАК БЛІЗКА, ЯК ВЫ, САПРАЎДЫ?
Я РАЗМАЎЛЯЮ З ХЛОПЦАМ, МЭМ.
ГЭТА НАША ГІСТОРЫЯ. МЫ Ў ШЛЯХУ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ЗДАРЫЛАСЯ ЎСЁ ГЭТА ЛАЙНО. А ШТО НАКОНТ ВАС? ЗДАЕЦЦА, ВЫ ДАВОЛІ НЯДРЭННА ЎЛАДКАВАЛІСЯ.
ШТО Ў ВАС ТУТ? НЕКАЛЬКІ АГАРОДЖАНЫХ КВАРТАЛАЎ? ВЫДАТНА.
А ДАКЛАДНЕЙ ЧАТЫРЫ КВАРТАЛА. І МЫ ПРАЦУЕМ НАД АГАРОДЖАЙ ДЛЯ ПЯТАГА. У НАС ТУТ КАЛЯ САРАКА ЧАЛАВЕК. СПАЧАТКУ ПРЫХОДЗІЛА ШМАТ ЛЮДЗЕЙ, ПОТЫМ МЕНШ. ПОТЫМ НЕКАЛЬКІ. ВЫ ПЕРШЫЯ ЗА ГЭТЫ МЕСЯЦ.
ХАЦІЦЕ ВЕДАЦЬ, ЧАМУ МЫ ПРАЙГРАЛІ? УРАД... У ВАЙНЕ СУПРАЦЬ КУСАК. МЫ Ж ПРАЙГРАЛІ, РАЗУМЕЕЦЕ.
ПРЭЗІДЭНТ ДАСЛАЎ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГВАРДЫЮ, КАБ АБАРАНІЦЬ ГАРАДЫ, ЗРАБІЦЬ ІХ БЯСПЕЧНЫМІ ЗОНАМІ ДЛЯ ЎСІХ НАС, НАРМАЛЬНЫХ ЛЮДЗЕЙ, КАБ САБРАЦЬ НАС РАЗАМ. УПЭЎНЕНЫ, ТЫ ПАМЯТАЕШ ГЭТУ ЧАСТКУ ГІСТОРЫІ.
АЛЕ АСНОЎНАЯ ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО САЛДАТЫ БОЛЬШ ХВАЛЯВАЛІСЯ ЗА СВАІХ ЖОНАК І ДЗЕЦЯХ, ЧЫМ АБ ТЫМ, ШТО ТРЭБА ПАДНЯЦЬ СВАЕ АЗАДКІ І ЗМАГАЦЦА З ТРУПАМІ Ў АТЛАНЦЕ.
ВАЙСКОВАЯ БАЗА ПРЫБЛІЗНА Ў МІЛІ АДСЮЛЬ... ЦАЛКАМ КІНУТА. УСЕ ПРЫПАСЫ ЗАСТАЛІСЯ ТАМ. ЯНЫ СПАТРЭБІЛІСЯ НАМ. ПРЫБОРЫ НАЧНОГА БАЧАННЯ, СНАЙПЕРСКІЯ ВІНТОЎКІ, АМУНІЦЫЯ, ВЫ БАЧЫЛІ ЎСЁ ГЭТА Ў ДЗЕЯННІ. ГЭТА МЕСЦА СТАЛА Б КУЧАЙ ЛАЙНА БЕЗ ГЭТАГА.
ПАШАНСЦІЛА ВАМ. КУДЫ ВЫ ВЯДЗЕЦЕ НАС? МЫ ІДЗЕМ ДА СВЯТЛА. ШТО ГЭТА? БЕЙСБОЛЬНЫ СТАДЫЁН?
ШТО Ж ЧУЖЫНЕЦ. ВІДАЦЬ МЫ НЕ АДЗІНЫЯ ТУТ, КАМУ ПАШАНСЦІЛА. ВЫ З'ЯВІЛІСЯ Ў ДОБРУЮ НОЧ.
ГЭТАЙ НОЧЧУ БУДЗЕ БОЙ.


ЦІКАВА, АДКУЛЬ УСЯ ГЭТА ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ?
ГРОБАНАЕ СЯЛЯНСТВА. ЯНЫ ТАК ЛЮБІЛІ СВАЕ ГОНКІ НА ГРУЗАВІКАХ, ШТО ПАСТАВІЛІ ТУТ ВЯЛІЗНЫ ГЕНЕРАТАР, КАБ ІХ ВЕЧАРОВЫЯ ГОНКІ НЕ МАГЛІ БЫЦЬ СПЫНЕНЫЯ АДКЛЮЧЭННЕМ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ.
БАІ Ў АСНОЎНЫМ ПРАВОДЗЯЦЦА ЎДЗЕНЬ. МЫ БЕРАЖОМ ГЕНЕРАТАР ДЛЯ АСАБЛІВЫХ ВЫПАДКАЎ.
ХАДЗЕМЦЕ, У МЯНЕ ЁСЦЬ СВОЙ ПАКОЙ НАВЕРСЕ. ТАМ ЛЕПШЫЯ МЕСЦЫ.
ДЫК ШТО? ВЫ РОБІЦЕ ТАК, КАБ ЗОМБІ БІЛІСЯ АДЗІН З АДНЫМ?
CAT
Я АДЧУВАЮ ТВАЁ НЕЎХВАЛЕННЕ, ЧУЖЫНЕЦ. ТЫ НАПЭЎНА НЕ ЗАЎВАЖЫЎ, ШТО ЯНЫ НА ЦЭПАХ. У НАС НЕ ТАК ШМАТ ЗАБАЎ.
КАЛІ Ў ЛЮДЗЕЙ НЯМА ЗАБАЎ, ЯНЫ СТАНОВЯЦЦА БУЯНЫМІ.


PRIVATE
ЗОМБІ? У БОЙКАХ КУСАК НЯМА НІЧОГА ЦІКАВАГА. НА РЫНГ ВЫХОДЗЯЦЬ САПРАЎДНЫЯ ЖЫВЫЯ ЛЮДЗІ. ВЫХОДЗЯЦЬ ДВОЕ І ВЫБІВАЮЦЬ ЛІХА АДЗІН З АДНАГО... АТРЫМЛІВАЕЦЦА НЯДРЭННАЕ ШОЎ. КУСАКІ ГЭТА ПРОСТА ДАДАТКОВЫ СТЫМУЛ.
ТЫ СУР'ЁЗНА?
ВЫ АГАРОЖВАЕЦЕ ГЭТАЕ МЕСЦА... РОБІЦЕ ЯГО БЯСПЕЧЫМ, А ПОТЫМ ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЕ ЗОМБІ ДЛЯ ЗАБАЎЛЕННЯ. ГЭТА НЕ ВЕЛЬМІ БЯСПЕЧНА, ГУБЕРНАТАР.
СПАЧАТКУ ТАК... У НАС БЫЛО НЕКАЛЬКІ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ. АЛЕ ЯК ТОЛЬКІ МЫ ПАЧАЛІ КАРМІЦЬ ІХ... ЯНЫ СТАЛІ ДАВОЛІ ПАСЛУХМЯНЫМІ. ЗАРАЗ ПАГРОЗЫ НЯМА.
БРУС, ЗАЧЫНІ ДЗВЕРЫ, КАЛІ ЛАСКА.
ПАЧАКАЙ... ВЫ КОРМІЦЕ ІХ? ЧЫМ ВЫ, ЧОРТ БЯРЫ, КОРМІЦЕ ІХ?


ШТО Ж, ЧУЖЫНЕЦ.
МЫ КОРМІМ ІХ ЧУЖЫНЦАМІ.

